# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 21 (1776) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 27 МАЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



Беласток, вул. Ліповая.

Фота Я. Целушэцкага.

# ВЫБАРЫ'90

## БЕЛАСТОЦКІЯ КАНДЫДАТЫ

### БЕЛАРУСКАГА ДЭМАКРАТЫЧНАГА АБ'ЯДНАННЯ

(Кааліцыйны Выбарчы Камітэт)



**АНТОН МІРАНОВІЧ, 30 гадоў. Доктар гісторыі. Працуе ў Інстытуце гісторыі Беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта. Член Краёвай управы БДА. Кандыдат з 3 акругі.**

У сваёй выбарчай праграме на першым месцы я вылучаю адстойванне нацыянальных і рэлігійных інтарэсаў беларусаў у нашым горадзе. Хачу, каб справа нашай беларускай тут прысутнасці сталася чымсьці нармальным, як для нас саміх, так і для палякаў. Першым крокам такой нармалізацыі магло б стацца ўвядзенне беларускамоўных надпісаў у горадзе ці афіцыяльнае замацаванне вольных ад працы дзён на праваслаўныя святы (Вялікдзень, Каляды) для вернікаў Праваслаўнай царквы. Гэта дробныя справы, яны не патрабуюць дзеля свайго вырашэння вялікіх фінансавых сродкаў, тым не меней гэта надта істотныя справы і добры пачатак для вышэй спамянутай нармалізацыі. Лічу таксама, што беларусы нашага рэгіёна павінны мець адпаведную рэпрэзентацыю ва ўсіх установах і інстытуцыях. Ніхто не павінен быць праследаваны або абмяжоўваны ў сваіх правах толькі з прычыны свае нацыянальнасці ці веравызнання.

Важным элементам свае праграмы лічу праблемы экалогіі. У маштабе цэлага рэгіёна маю перш за ўсё на ўвазе спыненне знішчання Белавежскай пушчы. У горадзе Беластоку трэба будзе абмежаваць шкодны для асяроддзя ўплыў выкідаў з комінаў беластоцкай электрацяплоўні.



**ЮРКА РАМАНЮК, 36 гадоў. Будаўляны тэхнік. Працуе ў рамонтна-будаўлянай фірме. Член Галоўнай рады БДА. Кандыдат з 6 акругі.**

Роля радных ад Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, калі будуць выбраны, павінна галоўным чынам палягаць на рэпрэзентаванні спецыфічных інтарэсаў беларускага асяроддзя ў нашым горадзе: культурных і асветных перш за ўсё. Гэта таму, што няма ніякай іншай палітычнай сілы, якая б у абароне гэтых інтарэсаў не толькі каб выступала, але і ўвогуле іх заўважала. Вышэй сказанае не азначае, што беларускія радныя не павінны ўдзельнічаць у вы-

**(Працяг на стар. 3)**

# НАСТУПНЫ КРОК

## РОДНЫЯ!

У чэрвені мінулага года, на выбарах у Сейм і Сенат, мы паставілі першы крок на шляху да адраджэння нашай палітычнай актыўнасці. Заявілі пра сябе як пра самастойную палітычную сілу. Усведамілі сабе, што нельга нам абысціся без удзелу ў палітычным жыцці краіны, калі хочам далей заставацца сабою на зямлі нашых бацькоў і дзядоў.

Сёння нам трэба паставіць наступны крок. Сёння мы павінны пайсці на выбары і прагаласаваць на сваіх кандыдатаў у тэрытарыяльныя самаўрады. Гэта наш маральны абавязак перад будучыняй нашага народа.

Нацыянальна свядомыя беларусы Беласточчыны аб'ядналіся на час выбарчай кампаніі ў беларускіх выбарчых камітэтах. Беларускія выбарчыя камітэты вылучылі на выбары сваіх кандыдатаў, людзей сумленных і з грамадскім аўтарытэтам. Тых, якія змогуць разумна і адказна пакіраваць гаспадарчым, грамадскім і культурным жыццём гміны ці горада. Тых, якія не пабаяцца выступіць у абароне нашых нацыянальных і рэлігійных інтарэсаў.

Дэмакратыя — гэта не дыктат волі большасці над меншасцю. Недапушчальная такая сітуацыя на Беласточчыне, калі б беларусы не мелі сваёй рэпрэзентацыі ў тэрытарыяльных органах самакіравання. Але, каб так не сталася, не хопіць толькі пажаданняў. Тут трэба змагацца, неадступна. Для адных гэта азначае выставіць сваю асобу на грамадскім відавоку і аддаваць свой вольны час нацыянальнай справе, для іншых — толькі пайсці да выбарчай урны і аддаць свой голас. Але рашучасць першых і воля другіх у канчатковым выніку важаць аднолькава. Усе мы робім выбар.

Уганаруйма самаахвярную і высакародную працу беларускіх выбарчых камітэтаў сваёй падтрымкай на выбарах. Аддайма свой голас на беларускіх кандыдатаў. Наша непрысутнасць на выбарах не мае сэнсу. Бо калі не пастаім за сваё мы самі, дарэмна будзе спадзявацца на заступніцтва іншых.

**Поспех беларускіх кандыдатаў у першую чаргу будзе залежаць ад масавага ўдзелу саміх беларусаў у галасаванні. Таму мы павінны пайсці ўсе.**

**Беларускі выбарчы камітэт**
Беласток, 27.05.1990

## НА МЯЖЫ

— 1 —

# АБ'ЯДНАНАЯ ГЕРМАНІЯ

Яшчэ некалькі гадоў таму назад гаварылася аб дзвюх Германіях як аб чымсьці вечным. Зрэшты, сям-там раздаваліся галасы аб тым, што не толькі мае дачыненне з двума дзяржаўнымі арганізмамі, але нават з двума рознымі народамі. Такога тыпу публіцысты і палітыкі не разумелі, што нельга назаўсёды раздзяліць пры дапамозе сілы адзін з найбольшых еўрапейскіх народаў.

Калі гаварыць праўду, дык мне, чалавеку, які памятае страшэнную вайну, якая, як вядома, была выклікана немцамі, адпавядала „кара", наложаная на Германію ў форме яе падзелу на дзве дзяржавы. Чаму? Таму, што, як мне здавалася, немцы так доўга не пачнуць агрэсіі ў адносінах да іншых народаў, як доўга будуць раздзелены на дзве дзяржавы. Адным словам, як доўга немцы не здолеюць рэалізаваць сваёй еднасці, так доўга не будуць у стане зашкодзіць іншым народам. З гэтага вынікала, што існаванне дзвюх нямецкіх дзяржаў карысна не толькі для тых народаў, якія былі ахвярамі нямецкай нацыі, але для ўсіх еўрапейскіх, ды не толькі еўрапейскіх, дзяржаў. Аднак такое разуменне праблемы заставалася ў нязгодзе з натуральным імкненнем немцаў да еднасці. Але ці толькі немцаў? Думаю, што само імкненне немцаў без падтрымкі з боку прынамсі некалькіх моцных дзяржаў сённяшняга свету не дало б практычнага выніку. Так аднак склалася, што дзве Германіі знаходзіліся ў сферы ўплываў ЗША і СССР — дзяржаў, якія кіраваліся, ды і кіруюцца, вельмі рознымі, а часам супрацьстаўнымі ідэалогіямі і філасофіямі. У апошні перыяд маем дачыненне з выразным крызісам так званага сацыялістычнага лагеру, ды і сацыялізму ўвогуле. Узнікла магчымасць ліквідаваць гэтую сістэму ва ўсіх краінах гэтак званай народнай дэмакратыі, у тым ліку і ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Вось гэта і адкрыла дарогу да аб'яднання дзвюх Германій. Трэба, мабыць, падкрэсліць і тое, што да аб'яднання імкнулася ў большай ступені грамадскасць ГДР, чым грамадскасць Заходняй Германіі. Зразумела, што з чымсьці адваротным мелі мы дачыненне ў выпадку нямецкіх урадаў. Тут урад Заходняй Германіі быў заўсёды прыхільнікам аб'яднання, а ўрады ГДР былі заўсёды ворагамі такой ідэі. Аднак, аказваецца, воля народа пачынае быць важнейшай, чым воля ўрада. Апошнія выбары ў ГДР сведчаць аб гэтым вельмі вымоўна. Створаны ў ГДР новы ўрад пачынае думаць так, як думае большасць грамадства. Такім чынам, ужо няма перашкод у справе аб'яднання Германіі і няма сумненняў у тым, што яна аб'яднаецца. У сэрцы Еўропы ўзнікне дзяржава, якая будзе налічваць восемдзесят мільёнаў чалавек і стане адным з наймацнейшых эканамічных патэнцыялаў у свеце.

Магло б здавацца, што здарылася тое, што павінна было раней ці пазней здарыцца, і што трэба ўшанаваць як волю саміх немцаў, так і волю, мабыць, большасці еўрапейскіх дзяржаў. Аднак справа гэта не выглядае аж так проста і гладка. Нядаўна была праведзена апытальная анкета ў Польшчы. Аж 70 прац. яе ўдзельнікаў сказала, што баіцца новай нямецкай агрэсіі з боку аб'яднанай Германіі. Думаю, што калі б такая анкета была праведзена ў Беларусі, праўдападобна, працэнт тых, хто баіцца немцаў, быў бы яшчэ большы. Боязь перад магутнай Германіяй выразна прабіваецца з выступленняў міністра замежных спраў Польшчы Кжыштафа Скубішэўскага.

Зразумела, што ніхто сёння не выступае супраць натуральнага права немцаў да адной дзяржавы. Аднак гутарка ідзе аб тым, каб адзіная Германія дала Еўропе гарантыю, што больш ніколі не выйдзе з нямецкай зямлі агрэсія ў адносінах да іншых народаў.

Як вядома, народамі, якія найбольш пацярпелі ад немцаў, былі яўрэі, беларусы і палякі. Калі б гэта залежала ад мяне, дык я якраз прадстаўнікоў гэтых трох народаў пасадзіў бы за сталом канферэнцыі, прысвечанай аб'яднанню Германіі. Пасадзіў бы не як гасцей на адным ці двух пасяджэннях, а як сталых паўнапраўных членаў — удзельнікаў канферэнцыі на ўсіх яе пасяджэннях.

Я не палітык і таму гляджу на нямецкую праблему пачуццёва, а не рацыянальна. Зразумела, што мой голас мае сілу камарынага піску ў нетрах Белавежы. Аднак, калі б я меў уплыў на нямецкую праблему, дык Германію поўнасцю дэмілітарызаваў бы і дазволіў бы ёй мець толькі паліцыйныя сілы. Прызнаюся, што моцна баюся той 1.800.000-ай нямецкай арміі, якой мае распараджацца аб'яднаная Германія. Баюся і думаю, што баіцца ўсе, хто памятае акупацыю. А наогул жадаю немцам, каб аб'ядналіся і жылі шчаслівым жыццём на сваёй нямецкай зямлі.

**А. Барскі**

## З мінулага тыдня

**Жыхары Беласточчыны вылучылі 2693 кандыдатаў у самаўрады, з якіх будзе выбрана 1043 радных (дэпутатаў). Найбольш прапаноў паступіла ад груп жыхароў (856), грамадзянскіх камітэтаў „Салідарнасць" (725) і індывідуальных асоб (235). Беларускія выбарчыя камітэты вылучылі 148 кандыдатаў, выбарчыя камітэты нацыянальных меншасцяў (галоўным чынам, у Чаромсе і Боцьках) — 40, руска-украінскія выбарчыя камітэты — 37. У выбарах прымае ўдзел 35 розных грамадска-палітычных груповак.**

**У Беластоку стварыўся камітэт пабудовы помніка Юзэфу Пілсудскаму.** Стане ён на Рынку Касцюшкі і будзе адкрыты 21 жніўня 1991 года ў 70-тую гадавіну прывітання ў Беластоку І Маршала Польшчы, Начальніка Польскай Дзяржавы.

**Улады Мінска** дазволілі некаторым вялікім магазінам і універмагам купляць тавары ад польскіх турыстаў. Турыстам адлічваюць толькі 12 працэнтаў вартасці тавараў.

**Чатыры тысячы в'етнамцаў,** якія працавалі ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, уцяклі на захад толькі за той час, калі была адкрыта граніца паміж ГДР і ФРГ.

**Хваля антысемітызму прайшла праз Францыю.** У горадзе Секлен на поўначы Францыі на будынках і помніках былі намаляваны чырвонай фарбай свастыкі і зоркі Давіда. На могілках у Карпентрас і ў Клішы-Сус-Буа былі разбураны і аганьбаваны яўрэйскія магілы. У Парыжы адбылася вялікая маніфестацыя супроць расізму і антысемітызму.

**Арабскія бежанцы,** якім не ўдалося ўехаць у Швецыю, прабываюць у Польшчы. 800 чалавек, найбольш з Лівана, Эфіопіі і Самаліі (а таксама 5 чалавек з СССР і адзін з Чэхаславакіі), пражываюць у 10 дамах адпачынку пад Варшавай і ў адным у Свінавусціі.

**Пасол СССР Уладзімір Бровікаў склаў развітальны візіт міністру замежных спраў Кжыштафу Скубішэўскаму ў сувязі з заканчэннем яго місіі ў Польшчы.**

**Шахматны чэмпіён свету Гары Каспараў** заявіў брытанскай газеце „Observer", што пакінуў КПСС і намагаецца згуртаваць прадстаўнікоў розных палітычных груповак у Маскве з мэтай стварыць новую партыю радыкальных дэмакратаў.

**Кангрэс ЗША разглядае прапанову спыніць дзейнасць радыёстанцыі „Свабодная Еўропа",** якая ўжо 40 гадоў надае перадачы да краін Усходняй Еўропы. У сувязі з пераменамі ў Польшчы і Венгрыі паменшылася патрэба ў перадачах гэтай радыёстанцыі, у адрозненні да перадач радыёстанцыі „Свабода", якія накіроўваюцца да дванаццаці нацыянальнасцяў Савецкага Саюза.

**У Гродне стварыўся арганізацыйны камітэт Беларускай дэмакратычнай партыі.** У яго склад увайшлі прадстаўнікі розных грамадска-палітычных арганізацый, звязаных з Беларускім народным фронтам.

### РЫХТУЕЦЦА ФЕСТЫВАЛЬ

Ужо мы інфармавалі чытачоў, што ад 15 да 17 чэрвеня г.г. будзе праводзіцца І фестываль беларускай песні ў Польшчы, арганізаваны ГП БГКТ. Зараз вядуцца інтэнсіўныя падрыхтоўчыя працы да гэтага мерапрыемства. Арганізатарам хочацца, каб гэта быў сапраўдны фестываль, а не толькі з назвы, і таму Галоўнае праўленне БГКТ папрасіла дапамогі ў спецыялістаў з Мінска. Нядаўна прабывае некалькі дзён у Беластоку загадчык кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску, заслужаны артыст БССР Уладзімір Мішчанчук.

**Госць пазнаёміўся з праграмай фестывалю і зведаў беластоцкі амфітэатр, дзе будзе праводзіцца мерапрыемства. Падрыхтуе ён сцэнаграфію і будзе рэжысёрам паасобных канцэртаў. Спытаны пра свае першыя ўражанні з візіта ў Беласток, Уладзімір Мішчанчук сказаў:**

— Неспадзяванай для мяне была пашана мясцовых людзей да беларускай культуры. Марыцца мне зрабіць фестываль на высокім узроўні. Пакуль што не ведаю яшчэ ні калектываў, ні паасобных выканаўцаў. Патрэбны беспасрэдны кантакт з удзельнікамі фестывалю, і таму яшчэ перад фестывалем прыеду ў Беласток, каб з імі пазнаёміцца.

Вяртаючыся ў Мінск, наш госць меў ужо апрацаваны першы эскіз сцэнаграфіі. Будуць выкарыстаны ў ёй матывы беларускай і польскай нацыянальнай сімволікі (белы і чырвоны колеры), герб Пагоня, кампазіцыі экібаны. Над сцэнай амфітэатра будзе красавацца транспарант з надпісам: „Вітаем удзельнікаў І фестывалю беларускай песні".

Уладзімір Мішчанчук хоча ў час летніх канікул зрабіць са сваімі студэнтамі фільм пра польскую частку Белавежскай пушчы. Карыстаючыся нагодай, пабываў ён у Белавежы, дзе правёў размовы наконт рэалізацыі фільма. **(л)**

### У ГОНАР СКАРЫНЫ

Сёлета адзначаем 500 гадавіну з дня нараджэння беларускага першадрукара Францыска Скарыны. Многія культурныя і навуковыя ўстановы па-за Беларуссю таксама святкуюць гэту гадавіну, а ЮНЕСКА аб'явіла 1990 год Скарынінскім.

Юбілей Францыска Скарыны будзе адзначацца і ў нашай краіне. У чэрвені адбудзецца міжнародная навуковая канферэнцыя ў гонар стваральніка беларускага друку. Арганізатарамі яе з'яўляюцца: Інстытут славяназнаўства Польскай акадэміі навук, Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Філіял ВУ ў Беластоку і Галоўнае праўленне БГКТ. Першая частка канферэнцыі будзе праходзіць 18 і 19 чэрвеня г.г. у Палацы культуры і навукі ў Варшаве, а другая — 20 чэрвеня — у памяшканні БГКТ у Беластоку. З дакладамі прыедуць вучоныя з БССР, ЗША, Балгарыі і ГДР. Арганізатары запрасілі, між іншым, Адама Мальдзіса, Алега Лойку і Льва Шакуна з Мінска і Томаса Бэрда з Нью-Йорка. Краёвых вучоных на канферэнцыі прадстаўляць будуць, між іншым, Аляксандр Баршчэўскі і Альберт Барташэвіч з Варшавы, Тэлесфор Пазняк з Вроцлава, Антон Міранові з Беластока. **(л)**

# З ДРУКУ

## ГЭТА НАША АЙЧЫНА

*Настаўніцкая газета „Glos nauczycielski“ пачала друк цыкла артыкулаў аб школьніцтве нацыянальных меншасцяў у Польшчы. У іх ставяцца пытанні пра цяжкасці, з якімі гэтаму школьніцтву даводзіцца змагацца, пра шанцы яго росвіту і самыя неабходныя патрэбы. Цыкл гэты пачынаецца размовай з Янкам Зенюком — шматгадовым дзеячом БГКТ, дырэктарам Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі ў Беластоку, старшынёю Краёвай секцыі бібліятэкараў Галоўнага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў („Гэта наша айчына“, № 17 ад 29 красавіка 1990 г.).*

*У першай частцы размовы закранаюцца пытанні польска-беларускіх адносін, пачынаючы з 1939 г., і гісторыі беларускага школьніцтва ў пасляваенны перыяд. Далей размова пераходзіць да пытанняў, якія турбуюць нацыянальнае школьніцтва зараз. Мы прапануем чытачам фрагменты гэтага інтэрв'ю.*

**— У якім становішчы знаходзіцца беларускае школьніцтва зараз?**

— Здаецца, што мы выпрацавалі аптымальныя арганізацыйныя формы. Дзякуючы намаганням нашага асяроддзя, была адменена дыскрымінацыйная пастанова, якая загадвала кожны год пісаць заяву аб навучанні роднай мове. Зараз навучанне беларускай мовы вядзецца ў 45 пачатковых школах у 17 гмінах (на 49) і ў двух агульнаадукацыйных ліцэях — у Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы (...).

**— А колькі дзяцей вучыцца беларускай мове?**

— Каля 4 тысяч. На жаль, далёка нам да тых 12 тысяч, якія вучыліся ў 1970 г. Гэта вынік палітыкі сямідзесятых гадоў. Давяла яна да ліквідацыі двух важных цэнтраў: беластоцкага і сакольскага. Але клімат для навучання беларускай мовы зноў робіцца прыхільным. Цяпер уведзены вялікія аблягчэнні. Міністэрскія правілы дазваляюць арганізаваць навучанне роднай мовы нават тады, калі група жадаючых складаецца з 4 дзяцей.

Самае галоўнае, што навука адбываецца на добраахвотных і недыскрымінуючых прынцыпах. У Гайнаўцы і Бельску працуюць ліцэі з беларускай мовай і без яе. Створана магчымасць выбару. Падобна выглядае справа ў Бельску з пачатковай школай № 3. Там навучаецца беларуская мова. Калі хто не хоча вучыць беларускай мове сваіх дзяцей, мае да выбару іншыя школы.

**— Ці гэта абазначае, што скончыліся вашыя клопаты?**

— Зусім наадварот, беларускае школьніцтва праходзіць усе тыя ж цяжкасці, што і ўся польская асвета. Гэта шырокі дыяпазон праблемаў...

**— Ці маглі б вы іх назваць?**

— Напрыклад, кадры. Хто

(Працяг на стар. 5)



## Свойскія малюнкі



*Дубы ля гасцініцы „Іва“ ў Белавежы.*
*Мал. У. Петрука*

# празяблы хлопчык

— Мая мама добрая, не б'е мяне! — сказаў мне Лёнік — малы, худзенькі хлопчык, на выгляд гадоў 11-12. Яму ўжо было за 14, аб чым я ведаў, бо меў настаўніцкую практыку ў яго вясковай школе.

Лёнік вучыўся яшчэ ў шостым класе. Паўтараў яго. Пераехаў жыць у горад, і цяжка яму прызвычаіцца... А цяпер едзе да бабулі.

Чаму ў гэты зімовы марозны дзень ён без шапкі? Шалее мяцеліца, а ён худыя чырвоныя рукі хавае ў кароткія рукавы тонкай куртачкі.

— Дайце мне хоць адну рукавіцу, а то ўжо рук не чую.

— Вазьмі і шалік, але і галаву ім закутай.

— Што я, баба, каб шалік так насіць?

— Не саромся, ніхто тут на цябе глядзець не будзе, кожны спяшаецца на свой цягнік.

Лёнік пацягнуў носам, аблупленым ад выцірання цвёрдай мокрай хустачкай. Мы селі ў вагон.

Лёнік ехаў да бабулі на вёску. Без білета. Адразу са школы выбег. Можа, я яму дам грошай на білет? А можа, яго кандуктар не заўважыць? Яго ведаюць чыгуначнікі і сакісты, даволі часта ўцякае да бабулі, і некаторыя думаюць, што ў яго месячны білет.

Лёнік скінуў з плячэй абшарпаную сумку з кніжкамі. Выняў кавалак хлеба, пачаў жаваць.

Нудна ў школе паўтараць гэты клас. Але што зробіш? Настаўнікі заўзяліся. Пэўна таму, што такі, як ён, ім непатрэбны. Ці кінуў біцца? А што, мелі яго лупцаваць? Не яго віна, што бацькі яго падкідаюць да бабулі, і што людзі аб яго маці ўсялякае гавораць.

— Мая мама добрая, не б'е мяне, заступаецца...

Бацькі Лёніка пазнаёміліся калісьці на забаве. З вялікага кахання хутка паявіўся Лёнік. І кахалі яны адно другога заўсёды, і ад гэтага кахання так біліся. Разыходзіліся, мірыліся, ехалі разам „у свет“, каб пасварыцца на наступнай станцыі. Лёніка гадавала бабуля. І калі ўжо забралі яго да сябе ў горад, да малюсенькага нанятага пакойчыка, хлопчык уцякаў на вёску.

Маці прападала тыднямі. У місках кісла намочаная пасцель, летам аж кішэла там ад чэрвяў мух. Не піла страшна многа, але кампанію любіла. Сцяпана няма, то чаго сядзець самой у хаце? Добра, што Лёнік у яе адзін — не прападзе, калі абеду не будзе, кавалак хлеба з'есць. Не прапаў дагэтуль, то і нічога з ім не будзе, такі жывучы...

Бацька, пасля кароткага захаплення, што ў яго ёсць сын, перастаў звяртаць на яго ўвагу. Добра, што не чапаў. Чым больш падрастаў Лёнік, тым больш бацька заўважаў, што гэта не яго сын (быў вельмі падобны на маці).



— А таткі ніколі няма ў хаце. Ён працуе, далёка. Часам да бабкі прыязджае, мяса бярэ. Ён добры. Мама добрая, не б'е мяне. Гэта няпраўда, што яна кепская...

Сцяпан пачаў жыць з іншай жанчынай. Патрабаваў цяпла, спакою, парадку ў хаце, ахайнасці... Ганна засталася адна з сынам, з няўменнем гаспадарыць, кіраваць сваім жыццём. Піла ўсё больш. Новыя таткі не вельмі падыходзілі Лёніку, хаця часам, па-мужчынску, частавалі яго гарэлкай і папяросамі. Маці са сваім кожным новым сябрам ладкавалася ў пакойчыку, а Лёнік бегаў па двары, ішоў у лес, на вуліцу або ехаў да бабулі 30 кіламетраў цягніком. Дзесьці трэба было падзецца...

Вось і сёння ён адразу са школы едзе да бабулі. Новы дзядзька раніцай падняў калматую, дымячую перагарам галаву з суседняга ложка і сказаў:

— С... ты сукін сын, каб я цябе тут не бачыў, а то качаргу ўвапхну ў горла. Ганна, ліквідуй гэта чортава насенне, бо мяне не ўбачыш больш. Дражніць ён мяне! Выбірай!

Лёніку пад горла падыйшоў горкі камяк. З жалю да маці, якая моўчкі глядзела з-над коўдры, падцягнутай пад бараду. Схапіў сваю сумку і пабег, галодны, у школу. Чакаў пад дзвярыма школы дзве гадзіны, пакуль яго не ўпусціла прыбіральшчыца. Яна яму і дала хлеба.

— А што мне зрабіць, калі зайду да бабулі? Крычаць можа будзе. Не дай Бог, наб'е. Яна ўжо не можа цярпець маіх бацькоў. Ну, і мяне таксама. Але яна мяне кахае. Толькі дзялоў у яе сваіх, а яшчэ я на яе голаву. Бабка плача... — Лёнік высмаркаўся ў рукаў. — Зайду цяпер дахаты, бабуля будзе якраз даіць кароў... Я хутка забягу ў хату, кіну вопратку і скочу пад пярыну. Я хворы, бабулька мяне пашкадуе...

Ужо цямнела, калі мы дайшлі да вёскі.

Тады я апошні раз бачыў Лёніка.

Праз два гады, якраз у разгар вясны (ужо выплывала жыта) мне сказалі, што Лёнік павесіўся. Маці яго выгнала з хаты — сказала, што злодзей ёй непатрэбны. Бабуля, татава маці, калі ён паявіўся на яе падворку, каб прасіць дапамогі, сказала, каб адчапіўся ад яе і ад яе сына, у якога цяпер іншая, парадачная сям'я. А бабулька, якая яго заўсёды шкадавала, а якую ён цяпер абакраў, і ў якой ад сораму і болю амаль не разарвалася сэрца, забараніла яму пераступаць нават граніцу веснічкаў.

Жыта выплывала за клунямі. Там расце старая груша, якую даўно мелі зрэзаць, бо не дае выгадна араць поле, ні жніваваць. Там аднойчы знайшлі Лёніка. Худзенькага, безбароннага, заўсёды празяблага хлопчыка.

Цяпер ён ужо нікога не непакоіць.

**Лукаш Баравіцкі**

# НОВЫЯ ВЫДАННІ

## „НАША СЛОВА“

У чэрвені летась у Мінску адбыўся Устаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У сакавіку 1990 г. пабачыў свет першы нумар бюлетэня Таварыства „Наша слова“. У звароце да чытача рэдакцыя бюлетэня піша: „Усе яго рубрыкі і публікацыі будуць працаваць на ўздым аўтарытэту і прэстыжу беларускай мовы, на выхаванне павагі і любові да яе, на тое, каб яна паўнапраўна, свабодна і смела гучала на зямлі яе стваральніка — беларускага народа“. Сапраўды, словы гэтыя добра характарызуюць накірунак і змест прадстаўленых у выданні тэкстаў. Усе яны прадстаўляюць вялікую цікаўнасць. Я хачу звярнуць увагу толькі на некаторыя. У рубрыцы „Культура мовы“ Анатоль Клышка разглядае праблему моўнага калькавання зваротаў і слоў з расейскай мовы на беларускую, падмацоўваючы свае вывады канкрэтнымі і паўсядзённымі прыкладамі. Рэдакцыя змяшчае выступленне Ніла Гілевіча (старшыні Таварыства) на Усесаюзнай канферэнцыі па мастацкаму перакладу ў 1965 годзе, у якім характарызуецца моўная і выдавецкая сітуацыя ў Рэспубліцы (тэкст, нягледзячы на сваю 25-гадовую даўнасць, не страціў актуальнасці і сёння). У рубрыцы „Рупліўцы. Пра тых, каму мы ўдзячныя“ даецца нарыс пра Сцяпана Некрашэвіча, выдатнага арганізатара беларускай асветы, вучонага-мовазнаўцы, укладальніка (разам з М. Байковым) „Беларуска-расійскага слоўніка“ (1926) і „Расійска-беларускага слоўніка“ (1928). Рэдактары прапануюць чытачам таксама рубрыку „Перагортваючы даўнія выданні“, у якой у першым нумары змяшчаюць перадрукі з „Нашай Нівы“ (1906), „Вольнага Сьцягу“ (1921) і „Авадня“ (1926). З „Нашага слова“ мы даведваемся, што на Беларусі на дзень 29 сакавіка 1990 зарэгістравана больш 50 раённых і гарадскіх арганізацый Таварыства беларускай мовы, 13 сяброў Таварыства стала народнымі дэпутатамі БССР у выніку сакавіцкіх выбараў.

Наша слова



Першы нумар „Нашага слова“ выйшаў тыражом 6500 экземпляраў. Бюлетэнь будзе выходзіць раз на месяц. Выданне безганарарнае.

## „СВАБОДА“

„Радзіма там, дзе свабода“, — заяўляюць А. Гуркоў, С. Дубавец і П. Жук, рэдактары першага нумара (красавік 1990) беларускай газеты „Свабода“, які быў надрукаваны ў Латвіі. „Свабода“ пазначана як выданне Выбарчай камісіі БНФ „Адраджэнне“, тыраж — 30 000.

У нумары — заява БНФ „Адраджэнне“ наконт заявы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб вяртанні БССР паўночна-заходніх беларускіх тэрыторый былой Віленскай вобласці і горада Вільні, выказванне айца Аляксандра Надсона ў сувязі з ягоным візітам на Беларусі, пералік патрабаванняў жыхароў заражаных раёнаў Беларусі, прынятых 24 лютага 1990 на мітынгу ў Хойніках, паслявыбарчая рэфлексія Віктара Івашкевіча — старшыні Выбарчай камісіі БНФ „Адраджэнне“. Дарэчы будзе прывесці тут выбарчую статыстыку: з 360 месцаў у Вярхоўным Савеце БССР занятыя пасля двух выбарчых тураў 280. 50 дэпутатаў — ад арганізацыяў глухіх, сляпых, інвалідаў і ветэранаў. 120 — наменклатурныя работнікі. 60 — дэпутаты, якіх падтрымліваў Беларускі дэмакратычны блок (створаны па ініцыятыве БНФ). 50 — дэпутаты, пазіцыі якіх на сённяшні дзень невядомы.

СВАБОДА

№ 1 БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА КРАСАВІК 1990

(ям)

## ГРАБАЎЧАНЕ Ў ВАРШАВЕ

Ніхто не можа запярэчыць, а хто не ведае — няхай даведаецца, што „Еўрапеўскую“ гасцініцу ў Варшаве будавалі нашыя грабаўлякі, як і жыхары такіх вёсак, як Чэхі-Арлянскія, Елянка, Курашава, Дабрывада і іншыя, цяпер ужо вядомыя вёскі, бо ляжаць вакол Дубічаў-Царкоўных.

Нашы хлопцы пасля вайны вырашылі дапамагчы дзяржаве адбудаваць гасцініцу сусветнага значэння, а сабе падзарабіць крыху грошай.. Сядзелі ў Варшаве не толькі месяцамі, але цэлымі гадамі, а гаспадаркі абраблялі жонкі і хто там аставаўся. Не адной жонцы бокам выходзіла гаспадаранне, але заўсёды мела надзею на даплыў свежага граша і мучылася адзінока.

Аж прыйшла хвіліна адчаю, калі цётка Манька далей не магла вытрываць без мужа. Адважылася паехаць у Варшаву завезці мужу смятаны, масла і кавалак кумпяка.

Калі цягнік затрымаўся на Віленскім вакзале, пані Маня выйшла з вагона з кошыкам ад бульбы ў руцэ (у ім найвыгадней яйкі вазіць, не паб'юцца так хутка), здзівілася вялікай колькасці людзей на пероне. Падумала: „Якоесьці польскае свята“. Падыйшла да першага мужчыны.

— Дзе тут працуюць грабаўлякі?

— Слухам пані, о цо пані ходзі?

— Як то, вы не ведаеце, па якому я гавару? Я вас як чалавека пытаю, дзе тут працуюць нашы грабаўлякі?

— Я пані не розумем, пані хыба пшыехала зэ всходу?

— А няўжо ж з захаду, пэўна, што з усходу.

— То ніц дзівнэго, жэ пані не потрафі мувіць по польску...

— То вы не ведаеце польскай мовы, а не я. Я валодаю чысцюткай польскай мовай, як усе з Грабаўца. А цяпер скажыце, куды мне ісці да мужа, яго Дмытром завуць?

— Я направдэ не вем, о цо пані ходзі, і кого пані шука.

— То мо вы і не знаеце Ваські Мазурыкавага? У нас яго ўсе знаюць, бо ён тут ёсць ахвіцэрам, я яго бачыла, як на урлёп прыязджаў.

— Цо мі ту пані оповяда? Які Васька, які Мазур? Ту Варшава, а не якась Піпідувка!

— О, го, го. Ну і разумак. У нас у дубіцкай царкве збіраюцца людзі з... зара, зара: Грабавец, Рутка, Тафілаўцы, Дубічы, Чэхі, Елянка... з шасці або і болей вёсак, і то я ўсіх ведаю, а ён, альфабэт, адной Варшавы не ведае. Але што аб ім гаварыць, калі ён аднаго на цэлы Грабавец ахвіцэра не ведае? Якісьці прахадзімец. А мо вы з Орлі?

— Не, я з Зялёнкі.

— То й тут Елянка ёсць? Бачыце, а вы ніяк не здолееце навучыцца сваёй мовы, фэ...

Далейшую гутарку з варшавянінам перапыніла Манька, убачыўшы на пероне Трахіма

— Трахім, што ты тут робіш?

— На піва прыйшоў.

— А дзе мой Дмыцёр?

— Зараз, нап'юся піва, то пойдзем. Мы ўсе там, на Кракаўскім Пшэдмесці готэль будуем для Варшавы.

Чалавек з Зялёнкі вырачыў вочы:

— Сконд ту тыле рускув?

**Васіль Петручук**

# З ДРУКУ

(Працяг са стар. 4)

мае вучыць роднай мове? Вядома, найлепш было б, каб выпускнікі беларускай філалогіі. Толькі гэты факультэт знаходзіцца далёка, бо ў Варшаўскім універсітэце. Кожны год паступае на беларускую філалогію 10 студэнтаў. Але яны не вяртаюцца да нас, бо гэта пераважна дзяўчаты, якія выходзяць замуж і застаюцца дзесьці ў Польшчы. І навучаюць рускай мове.

З гэтай прычыны нарадзілася думка перанесці беларускую філалогію з Варшавы ў Беласток. У нас ёсць філіял Варшаўскага універсітэта, які хутка ператворыцца ў Падляшскі універсітэт. Пры гэтым філалогія гэтая ў Варшаве з'яўляецца адзінокім астраўком. А тут звязана была б з рэгіёнам. Студэнты праходзілі б педагагічную практыку на месцы.

Мы звярнуліся таксама з прапановай, каб у нашым настаўніцкім інстытуце (SN) на факультэце пачатковага навучання ўвесці методыку навучання беларускай мовы. (...)

Другая важная справа — гэта падручнікі. Калісьці атрымлівалі мы іх з БССР. Хутка аказалася, што нельга імі карыстацца. Прадстаўлялі яны іншую рэчаіснасць, невядомую беларускім дзецям, пражываючым у Польшчы. Абмяжоўваліся мы толькі да буквара з „імпарту“, а астатнія падручнікі пачалі самі апрацоўваць тут, у Польшчы. Падручнікаў для многіх класаў не хапае. На жаль, у іх друкаванні выяўляюцца ўсе недахопы нашай паліграфіі. Падручнікі выдаюцца Школьным і педагагічным выдавецтвам. З увагі на нізкія тыражы і з-за ашчаднасці адсутнічае ў іх колер. Паверце, няма, мабыць, у свеце больш сумнай кніжкі, чым чорна-белая беларуская чытанка для II класа.

Патрэбны нам падручнік па гісторыі нашага рэгіёна з улікам мінулага пражываючых тут нацыянальных меншасцяў. Жывуць тут спакон вякоў беларусы, літоўцы, украінцы, татары, ну і палякі, а так мала ведаем пра свае карані. Веды на гэтую тэму дазволілі б пазбегнуць нацыянальных сварак. Такім чынам трацім шанцы выхавання ў сужыцці з іншымі народамі.

Няма ў нас магчымасці рыхтаваць і выдаваць падручнікі для ліцэяў. Далей карыстаемся савецкімі. Не хапае дапаможнікаў, перш за ўсё беларускіх слоўнікаў і энцыклапедычных выданняў. (...)

І яшчэ зусім прыземныя клопаты. Колькі матэрыялаў можна было б перапісаць на машынцы, размножыць на ксераксе? Аказваецца, што на працягу сарака гадоў не ўдалося нам здабыць пішучую машынку з беларускім шрыфтам. Трэба было гарбачоўскай перабудовы, каб можна было прывезці такія машынкі з Беларусі. Атрымалі іх абодва нашы ліцэі. Дарэчы, па прынцыпу абмену. (...)

„Ніва“
27 V 1990 г.

# ТЭАТР З ІЎЯ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У рамках дзён культуры Гродзеншчыны на Беласточчыне, якія праходзілі ў лютым мінулага года, завітаў да нас упершыню Народны драматычны тэатр з Іўя. Паказаў ён легендарную купалаўскую „Паўлінку“ ў Кляшчэлях. Вырашыў тады я паехаць паглядзець. І трапіў вельмі добра. „Паўлінка“ ачаравала не толькі мяне. У час пастаноўкі часта чуваць былі галасы захаплення, а адзін з гледачоў проста заявіў: „Мне і ў сне не снілася, што такое пабачу“.

Не змог я паўстрымацца, каб не пазнаёміцца з членамі тэатра з Іўя. Быццам назойлівая муха, круціўся я вакол іх. Удалося пазнаёміцца з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Віктарам Багушэвічам. З увагі на свае зацікаўленні сцэнічным беларускім мастацтвам, хацелася наладзіць бліжэйшыя сувязі, падвучыцца майстэрству. Дзеля гэтага пахваліўся я самадзейным тэатрам у Паўлах і бельскім маладзёжным „Гарнасам“. Не спадзяваўся, што ўжо праз два месяцы (у красавіку 1989 года) з калектывамі Паўлаў і „Хлопцамі-рыбалоўцамі“ паедзем выступаць у Іўе са сваёй праграмай. Вось там была нагода пасябраваць з іўеўчанамі, дагаварыцца аб супрацоўніцтве. На працягу года Народны тэатр з Іўя падрыхтаваў два спектаклі: маштабную драму Аляксея Дударава „Радавыя“ і невялікую камедыю Леапольда Родзевіча „Конскі партрэт“, з якімі ў красавіку прыехалі на Беласточчыну.

На працягу шасці дзён пасталі яны пяць разоў камедыю „Конскі партрэт“ (у Рыбалах, Дубічах-Царкоўных, Кляшчэлях, Чыжах і ў Старым Ляўкове) і тры разы драму „Радавыя“ на сцэнах Бельска, Чаромхі і Гайнаўкі. За кожным разам госці паказалі сябе з добрага боку. На жаль, у нас часта недацэньваецца тэатральнае мастацтва. Нашыя людзі адвучыліся хадзіць на драматычныя пастаноўкі. Аднак, найбольш усё залежыць ад таго, як да папулярызацыі сцэнічнага мастацтва ставяцца адказныя працаўнікі гмінных асяродкаў і дамоў культуры. Для прыкладу, у Дубічах-Царкоўных прыйшло надта мала гледачоў, нават дырэктара ГОКу чамусьці не было. Адносна выступлення ў гэтай гміне тэатра з Іўя, я заўчасу кантактаваўся з дырэктарам. Калі папытаў я ў некаторых жыхароў з Дубіч, дык яны нават не ведалі пра выступленне гасцей з Беларусі. Зусім інакш было ў Чыжах, дзе дырэктар ГОКу Юрка Якімюк са сваімі сябрамі пастараліся, каб госці з Іўя адчувалі сябе як найлепш. Зала была запоўнена цалкавіта, ды на заканчэнне адбылася сяброўская сустрэча ля вогнішча. Яшчэ лепш было падрыхтавана выступленне ў Старым Ляўкове. Нягледзячы на тое, што аб прыездзе тэатра паведаміў я толькі дзень да таго, у новапабудаваным клубе сышлося столькі гледачоў, што камар носа не ўваткнуў бы. Нават з суседніх вёсак ішлі і ехалі. Відавочная ў тым заслуга вакальнага калектыву „Цаглінкі“ на чале з Валянцінай Грыка і Васілём Целушэцкім. Пасля пастаноўкі была супольная вячэра за багатым сталом, многа весялосці і песні, песні, песні.

А што паказаў на Беласточчыне тэатр з Іўя? Пастаноўка камедыі Л. Родзевіча — „Конскі партрэт“ падрыхтавана была з улікам скромных сцэнічных умоваў у вёсках. Кароткая гэта сцэнка, але затое вельмі смешная. Гледачы аж за жываты трымаліся, каб не лопнуць са смеху, калі нічагаватая маладзіца (ролю грала Галена Яськуць) апутала свайго гаспадара (акцёр — Аляксандр Ільясевіч), а да таго і палюбоўніка мела — Героніма Цырымбулку (Мікалай Боган).

Драма Аляксея Дударава „Радавыя“ — вельмі сур'ёзны двухгадзінны спектакль на вялікую сцэну. Дзея адбываецца ў апошнія дні другой сусветнай вайны, на развалінах Берліна. Цяжкі гэта рэпертуар, але пад сілу Народнаму тэатру з Іўя. Майстэрства пастаноўшчыкаў і акцёраў добра выказвала вечна актуальную тэму жыцця і смерці, а таксама маральныя аспекты змагання дабра са злом. Немагчыма пераказаць шматграннасць спектакля, трэба гэта паглядзець. Мне падабалася прадстаўленне розных постацяў у драме, іх філасофіі, успрыманне асабістай трагедыі на фоне агульначалавечай бяды. Цяжка нават паверыць, што гэта непрафесіянальныя акцёры. Вялікая заслуга ў тым рэжысёра Віктара Багушэвіча. Тэатр працуе ўжо некалькі гадоў. Званне Народнага атрымаў за пастаноўку „Парога“ А. Дударава. З'яўляецца таксама лаўрэатам Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці.

Пажадайма далейшых поспехаў Народнаму драматычнаму тэатру з раённага дома культуры ў Іўі, а сабе — магчымасці паглядзець чарговыя пастаноўк гасцей з Беларусі.

**Ян Мордань**



*Народны драматычны тэатр з Іўя ставіць „Паўлінку“.*

# ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

## ЭХ, ГЭТЫЯ БАБЫ!

З дрымоты вырваў мяне гучны смех адной з дзвюх жанчын, якія сядзелі ў аўтобусе ззаду мяне. Міжвольна я пачаў прыслухоўвацца да іх гутаркі.

— Ведаеш, — гаварыла таўсцейшая. — Мужчыны, як дзеці. Іх усё жыццё можна вадзіць за нос. Мой муж аддае мне амаль усю сваю зарплату, сабе бярэ толькі некалькі тысяч на свае патрэбы. Але я іх і так ад яго выцягну. А яшчэ і накрычу, што зарабляе столькі, што жыць няма за што...

— Чуеш? — ні то спытаў, ні то звярнуў маю ўвагу мой сусед збоку. — Вось якія гэтыя бабы! Мая калісьці пачала наракаць, што не мае ў што абуцца. Я ўзлаваўся і пры ёй палічыў увесь абутак, які ў нас быў дома. Выйшла, што ў яе былі 23 пары, а ў мяне 3 — адна пара зімовая і дзве летнія. І ведаеш, што яна мне сказала? „А што з таго? Гэта ўсё барахло!“ Тады я да яе: „То навошта ты яго купляла?“ А яна мне: „А што ў нас добрага можна купіць?“ Вось як з гэтымі бабамі!

Усміхнуўся я. У мяне быў дакладна такі ж выпадак. Нават колькасць абутку згаджалася.

**Пётр Байко**

## ХТО СУПРОЦЬ БЕЛАРУСКАЙ СІМВОЛІКІ?

Прабуючы адказаць на гэтае пытанне, заўважыў я адну цікавую дэталь. Народ галасуе за „Пагоню“ і бел-чырвона-белы сцяг. А супроць — тыя, хто служыць „власть имущим“. Вось і хочацца мне пагутарыць з імі. Сам я не гісторык, таму буду гаварыць з агульначалавечых пазіцый.

Самы галоўны аргумент супроць — гэта тое, што „Пагоняй“ і бел-чырвона-белым сцягам карысталіся беларускія буржуазныя нацыяналісты і гітлераўскія прыслужнікі ў час II сусветнай вайны.

Калі ўжыць аргументаў праціўнікаў беларускай сімволікі, то нам даўно настала пара адмовіцца над нашага чырвонага сцягу. Бо ён лунаў не толькі над барыкадамі змагароў з царскім самадзяржаўем і Рэйхстагам. Прасякнуты крывёю тых, хто вёў барацьбу супроць царскага гнёту, ён таксама вісеў і над лагерамі ГУЛагу. Пад ім каталі нявінных рабочых, хлебаробаў, вучоных, пісьменнікаў, нарэшце, партыйных і савецкіх работнікаў. Мы цалавалі яго, уступаючы ў піянеры і камсамол, а потым адмаўляліся ад сваіх бацькоў, бо яны былі „ворагамі народу“. Яго горда насілі паўлікі марозавы.

Ёсць і другія падставы не несці нашага сцягу над калонамі. Бо яго выкарыстоўваюць італьянскія тэрарысты з „Чырвоных брыгад“. Узрыў вакзала ў Балонні — не самае страшнае на іх сумленні. Выкарыстоўваюць яны і нашыя серп і молат.

Але ці можна адрачыся ад роднай маці за тое, што яе згвалціў вораг?

**Уладзімір Малашкевіч,**
**журналіст**
**Гродна**

## З мінулага

### БЕЛАВЕЖА

Белавежа — вядомы ва ўсім свеце за справай рэштак першабытных лясоў і захавання зуброў навукова-турысцкі цэнтр. Заснавана яна ў пачатках XV ст. на левым беразе рэчкі Лутоўня. Пад канец XVI ст. яна была перанесена на правы бераг ракі Нараўка. Першая гістарычная звестка аб Белавежы на новым месцы адносіцца да 1597 г. і датычыць капання тут сажалкі. У пачатках XVII ст. быў пабудаваны над сажалкай каралеўскі паляўнічы дом, а непадалёку млын. Інвентар з 1696 г. успамінае ўжо аб існаванні фальварка, які даў пачатак Белавежскай паляне.

У палове XVIII ст. кароль Аўгуст III на месцы даўняга паляўнічага двара будуе невялікі палац. У 1775 г. у Белавежы жыве 20 сем'яў. У канцы XVIII ст. на Белавежскай паляне паяўляюцца вёскі Стачок, Падаляны, Застава і крыху пазней Крыжы, якія зараз лічацца вуліцамі славутай мясцовасці, хоць афіцыйныя назвы вуліц іншыя.

У 1826 г. Белавежа налічвае 56 дамоў, 1 карчму, 1 царкву. 21 год пазней быў пабудаваны вялікі драўняны будынак для гасцявання ўрадавых чыноўнікаў. У канцы XIX ст. цар Аляксандр III вырашае стварыць у цэнтры Белавежскай пушчы сваю асеннюю паляўнічую рэзідэнцыю. Будуецца палац і шмат дамоў, даводзіцца чыгуначная лінія і гасцінец.

I сусветная вайна прыносіць Белавежы вялікія страты. Поўнасцю была знішчана Застава, часткова — Стачок і Крыжы. У міжваенны перыяд у Белавежу пераносіцца Дырэкцыя дзяржаўных лясоў, развіваецца гандаль і дрэваапрацоўчая прамысловасць. Наплывае шмат палякаў з цэнтральных раёнаў Польшчы. Развіццё Белавежы спыняе II сусветная вайна. У час яе з рук гітлераўцаў гіне на Белавежскай паляне каля тысячы чалавек.

Новы этап развіцця перажывае Белавежа ў час народнай улады. Яна цяпер адзначаецца местачковым характарам. Дзейнічаюць тут тры навуковыя ўстановы, нацыянальны парк, лясны тэхнікум і пачатковая школа, а таксама шмат іншых устаноў і прадпрыемстваў. Зараз Белавежа налічвае 2,7 тысяч жыхароў.

Тэкст і фота **Пятра Байко**



*Белавежа, вул. ген. А. Вашкевіча.*

## Замалёўкі з жыцця

### МЕТАД

Вальдэк быў адзіным сынам Веры. Бацька памёр, калі хлопцу было дзесяць год. Маці сумавала па мужу і ўсю сваю любоў пераліла на сына. Рабіць нічога яму не давала, а грошы давала, колькі хацеў. Вера марыла аб тым, каб сын стаў лекарам. Яна не бачыла, або не хацела бачыць, што сыну не хочацца вучыцца і што ён дрэнна да яе адносіцца.

Сыну пайшоў васемнаццаты год. Вучыўся ў прафесіянальнай сельскагаспадарчай школе. Ледзь-ледзь на тройках. Не хапала яму тых грошай, што давала маці. Ён пачаў курыць найдаражэйшыя папяросы, піць піва і водку. Вальдэк пачаў красці.

Аднойчы пайшоў ён на панадворак багатых людзей. Абмінуў дом і пайшоў да каморы, якая была пастаўлена метраў тры ад хаты. Зламаў замок і ўвайшоў у камору.

Гэты манеўр заўважыў гаспадар, пабег і выцягнуў Вальдка на двор.

— Што тут робіш, валацуга?! — крыкнуў. — Я цябе адвучу красці! Адрубаю табе руку!!!

Гаспадар павёў Вальдка да калодкі. Палажыў яго руку на калодку і з размаху цёпнуў сякерай каля рукі. Зрабіў гэта спецыяльна, каб настрашыць маладога злодзея. Вальдэк са страху замачыў нагавіцы.

— Не рубайце! — закрычаў не сваім голасам. — Я больш не буду...!

— Завяду цябе на міліцыю, — сказаў гаспадар, — а ты там раскажаш усё аб сваім зладзейскім жыцці, бо як не — то галаву адрубаю!

Мужчына заткнуў сякеру за пояс і павёў Вальдка на міліцыю. Вальдэк да ўсяго прызнаўся і прысягнуў, што не будзе красці.

Больш не краў і не хоча ўспамінаць тыя часы.

**Аўрора**

## Кароткі абрыс беларускага пытання

Падрыхтаваў Аляксандр Баршчэўскі

### З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928 г.

— 18 —

У гэты час народныя камісары, зразумеўшы, што рыхтаваныя пастановы не былі б поўнасцю згодныя з іх планамі і ідэямі, пастанавілі разагнаць з'езд, пакуль ён яшчэ не прыняў якіх-небудзь асноўных рэзалюцый. Ноччу з 17 на 18 снежня 1917 года народны камісар унутраных спраў Рэзанскі разам з камендантам горада Крывашэіным увайшлі ў залу пасяджэнняў, заявілі аб роспуску з'езда і арыштавалі членаў прэзідыума. Нягледзячы на гэта, старшыня Серада заявіў, што пасяджэнне працягваецца. Пры гэтым удзельнікі з'езда скінулі Крывашэіну шапку з галавы і фізічна яго зняважылі. У адказ на гэта ў залу ўварваўся камандзір першага мінскага палка пяхоты Рэмнеў на чале групы салдат, якія акружылі прэзідыум. У зале запанаваў рэйвах, была ўзведзена барыкада, пачалася барацьба на кулакі. Нягледзячы на супраціўленне, прэзідыум быў арыштаваны і адведзены ў Савет народных камісараў.

Ад гэтага моманту беларускі рух сышоў на нелегальны шлях. Назаўтра, г.зн. 18 снежня 1917 года, Рада з'езда (частка засталася на свабодзе) правяла пасяджэнне, на якім быў створаны Выканаўчы камітэт Рады першага агульнабеларускага кангрэсу ў такім складзе:

Язэп Варонка — старшыня і замежныя справы

Сымон Рак-Міхайлоўскі — вайсковыя справы

Іван Серада — унутраныя справы

Касцевіч — асветныя справы

Прушынскі — справы працы

Бадунова — справы сацыяльнай апекі

Грыб — сельскагаспадарчыя справы

Заяц — загадваючы камітэцкімі справамі

Лагун — без міністэрскіх функцый

Дыла — без міністэрскіх функцый

Аляксандр Бурбіс — без міністэрскіх функцый

Гутман — прадстаўнік яўрэйскай меншасці

Зарубавель — прадстаўнік яўрэйскай меншасці

Мічуліс — прадстаўнік літоўскай меншасці

Прыстор (ППС) — прадстаўнік польскай меншасці

Злобін — прадстаўнік рускай меншасці

Прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў у склад камітэта ўвёў пасля звальнення з кароткатрывалага арышту Язэп Варонка. Выканаўчы камітэт быў па сутнасці падпольным урадам. Такім спосабам на Беларусі існавалі два ўрады. Савецкі — афіцыйны і беларускі — канспірацыйны. Гэтыя абедзве ўлады не распараджаліся рэальнай сілай. Беларускі ўрад перш за ўсё не меў грошай. З гэтай прычыны не магло быць гутаркі аб стварэнні якой-небудзь вайсковай сілы. Калі адзін з мінскіх палкоў, які складаўся ў большасці з беларусаў, хацеў перайсці пад камандаванне Выканаўчага камітэта, бальшавікі вырашылі перакінуць яго ў Арол. Калі полк не падпарадкаваўся гэтаму загаду, вайсковае камандаванне пазбавіла яго правіянту. У сувязі з тым, што камітэт не меў грошай, не быў у стане карміць збунтаваных салдат. У такой сітуацыі полк дэмабілізаваўся, і салдаты раз'ехаліся па сваіх дамах.

Па сутнасці, уладу мелі выключна „рэўкамы". У хуткім часе пасля гэтага бальшавікі распусцілі Цэнтральную беларускую вайсковую раду і арыштавалі яе зам-старшыню Езавітава, сакратара Захарку і Бадунову.

У мірнай канферэнцыі, якая праводзілася ў Брэсце пад канец 1917 года, прадстаўнікі Беларусі не ўдзельнічалі. Дэлегацыю, якая складалася з Цвікевіча, Рак-Міхайлоўскага і Серады, з якой толькі двум першым удалося прабіцца ў Брэст, немцы з волі Троцкага на канферэнцыю не дапусцілі. Не ўдалося таксама беларускім дэлегатам удзельнічаць у канферэнцыі ў складзе ўкраінскай дэлегацыі.

У той час беларускай дзяржавы яшчэ не было, а беларускую нацыю, як зрэшты і многія іншыя, на мірнай канферэнцыі прадстаўляў Троцкі.

*(Працяг будзе)*

## Парнасік

чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

### Я ХАЧУ ПАШАНЫ

Я служыў народу справай,
А не моваю пустою.
Я ляжаў у акопах мокрых,
Не з гітарай пад вярбою.

Я паранены быў цяжка.
Мне і сёння баляць раны.
Я жыцця дарма не траціў
І за гэта жду пашаны.

На маіх нагах салдацкіх
Боты не адны сапрэлі.
А цяпер мяне мінаюць,
Як бы й бачыць не хацелі.

Ёсць у нас такая мода —
Пляваць на другога,
А самому лезці ўверх —
Вось адна дарога.

Я культурных не баюся,
Баюся халопаў,
Праўда ў вочы мне не коле,
Страшна ад паклёпаў.

Я сабой хачу застацца,
Не хачу я зманы.
Я салідны чалавек
І хачу пашаны.

**Васіль Петручук**

### АДВУЧЫЛІ МЯНЕ

Адвучылі піва піць
Курыць і ругацца,
Цяпер сталі адвучаць
На мяса прыглядацца.

А калі ўжо адвучаць
Мяне мяса есці,
Тады будуць адвучаць
Да жонкі не лезці.

**М. Лук'янюк**

# НІНА АМЕЛЬЯНЮК ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

### 8. Займеннік — працяг

АСАБОВЫЯ ЗАЙМЕННІКІ. Сярод займеннікаў гэтай групы выдзяляюцца асабовыя (*я, мы, ты, вы*) і асабова-ўказальныя (*ён, яна, яно, яны*).

Асабовыя займеннікі паказваюць на канкрэтную асобу (*я, ты*) ці групу асоб (*мы, вы*), не называючы іх. Займеннікі *ты* і *вы* ў некаторых кантэкстах могуць мець і іншае значэнне. Могуць набываць абагульнена-асабовае значэнне, гэта значыць, могуць паказваць не на канкрэтную асобу ці групу асоб, але адносіцца да кожнага чалавека: *А па дарозе ты з кашом у лес шыбуеш ціхачом.* (К-с). *І ў які б бок вы ні пайшлі, усюды вас акружае лес.* („Звязда“). Займеннік *вы* ўжываецца замест *ты* пры звароце да адной асобы і выражае ветлівасць, павагу да субяседніка: *Назарэўскі працягнуў Зосі руку: — Цяпер я веру вам.* (К.Ч.)

Асаблівасцю асабовых займеннікаў (*я, мы, ты*) з'яўляецца тое, што ва ўскосных склонах маюць суплетыўныя асновы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *я* | *ты* | *м-ы* |
| Р. | *мян-е* | *цяб-е* | *н-ас* |
| Д. | *мн-е* | *таб-е* | *н-ам* |
| В. | *мян-е* | *цяб-е* | *н-ас* |
| Т. | *мн-ой (-ою)* | *таб-ой (-ою)* | *н-амі* |
| М. (аб) | *мн-е* | *таб-е* | *н-ас* |

Асабова-ўказальныя займеннікі маюць форму трох родаў і двух лікаў: *яна, ён, яно; яны.* Асновам ускосных склонаў таксама характэрны суплетывізм: тут у акасці асновы таксама выступае адзін гук (*j*):

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *ён (јон) ян-о (јан-о)* | *ян-а (јан-а)* | *ян-ы (јан-ы)* |
| Р. | *ј-аго* | *ј-ае* | *ј-іх* |
| Д. | *ј-аму* | *ј-ой* | *ј-ім* |
| В. | *ј-аго* | *ј-ае* | *ј-іх* |
| Т. | *ј-ім* | *ј-ой (-ою)* | *ј-імі* |
| М. (аб) | *ј-ім* | *ј-ой* | *ј-іх* |

ЗВАРОТНЫ ЗАЙМЕННІК *сябе.* Не мае формы назоўнага склону, а таксама форм роду і ліку. Можа адносіцца да кожнай асобы: 1-ай: *Нічога на свеце не пашкадуем, — думаў я сабе.* (Б.), 2-ой: *Чаму ты, дзядзька, усё з сабою размаўляеш?* (К-с), 3-ай: *Лабановіч спытаў сам у сябе, куды ж ён ідзе і чаго ідзе, і спыніўся, азіраючыся.* (К-с).

| | |
|---|---|
| Н. | — |
| Р. | сяб-е |
| Д. | саб-е |
| В. | сяб-е |
| Т. | саб-ой (-ою) |
| М. (аб) | саб-е |

ПЫТАЛЬНА-АДНОСНЫЯ ЗАЙМЕННІКІ.

Пытальныя займеннікі выражаюць пытанне пра асобу або прадмет (*хто? што?*): *Што з табой, Аксаначка, дзіцятка маё?* (І.Ш.).

Адносныя займеннікі ўжываюцца для сувязі галоўнай і даданай частак складаназалежнага сказа (*хто, што*): *Гэта выпадковасць ці загадзя было дамоўлена, што незнаёмец прыедзе ў Навагарадок пад покрывам ночы?* (Л.Д.).

Займеннікі *хто, што* не маюць граматычных катэгорыяў роду і ліку. Пры скланенні маюць суплетыўныя асновы:

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *хт-о* | *шт-о* |
| Р. | *к-аго* | *ч-аго* |
| Д. | *к-аму* | *ч-аму* |
| В. | *к-аго* | *шт-о* |
| Т. | *к-ім* | *ч-ым* |
| М. (аб) | *к-ім* | *ч-ым-* |

АДМОЎНЫЯ ЗАЙМЕННІКІ. Утвараюцца ад пытальна-адносных пры дапамозе прэфікса *ні-*: *ніхто, нішто.* Ужываюцца ў адмоўных сказах. Скланяюцца так, як пытальна-адносныя займеннікі. Мяняецца толькі месца націску: з апошняга галоснага двухскладовага канчатка перасоўваецца на першы галосны:

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *ніхт-о* | *нішт-о* |
| Р. | *нік-ога* | *ніч-ога* |
| Д. | *нік-ому* | *ніч-ому* |
| В. | *нік-ога* | *ніч-ога* |
| Т. | *нік-ім* | *ніч-ым* |
| М. (аб) | *нік-ім* | *ніч-ым* |

НЯПЭЎНЫЯ ЗАЙМЕННІКІ. Паказваюць няпэўна на асобу, прадмет, не канкрэтызуючы. Утвараюцца ад пытальна-адносных займеннікаў пры дапамозе прэфіксаў: *не-*: *нехта, нешта, абы-*: *абы-хто, абы-што* і постфіксаў: *-небудзь*: *хто-небудзь, што-небудзь, -сьці (-сь)*: *хтосьці (хтось). штосьці (штось).*

„У займенніках *нехта, нешта...* ва ўсіх склонах націск на прыстаўны *не-*: *некага, некаму,* ... у займенніках з постфіксам *-небудзь* націск прыпадае на першы склад постфікса: *каго-небудзь, каму-небудзь,* з прыстаўкай *абы-* — на канчатак: *абы-каго, абы-каму*“.[1]

Да няпэўных адносяцца таксама складаныя займеннікі тыпу: *хто-ніхто, што-нішто.*

---

[1] М.С. Яўневіч, Займеннік, Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф.М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 127.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мне 35 гадоў. Выйшла я замуж даволі рана, у 21 год. Шчасліва нарадзіла я дачушку праз два гады. Калі дзяўчынцы было тры месяцы, памёр мой муж, якога я вельмі кахала. У мужа майго было не надта моцнае здароўе і, на жаль, яно перадалося маёй дачушцы. Засталася я ўдавой, але пра дзіця дбала як магла. Дзяўчынка была хваравітая і трэба было ёй купляць лепшае харчаванне, а таксама вазіць на мора, каб дыхала марскім паветрам. Ну, і неяк я яе выхадзіла. Не скажу, каб я не мела поспеху ў мужчын. Я заўсёды была нябрыдкай кабетай, і мужчыны не былі ў адносінах да мяне абыякавыя. Было шмат прапаноў і заляцанняў, часамі я сябравала то з адным з іх, то з другім, але заўсёды найважнейшым для мяне было дзіцё, мая цудоўная белакурая дзяўчынка. Але нарэшце пазнаёмілася я з чалавекам, які і мне не быў абыякавы. Быў ён крыху старэйшы за мяне і вельмі шчыры. Аднак жа быў у яго адзін вялікі недахоп: быў ён жанаты і меў двое дзяцей. Маё сумленне не дазваляла разбіць яго сям'ю і асіраціць дзяцей. Я не хацела шукаць маёй дачушцы бацьку за кошт іншых і не магла б спаць па начах, калі б ведала, што гэты чалавек кінуў сваіх дзетак. І вось тады, калі мой каханы станоўча сцвердзіў, што павінен развесціся з жонкай, а тады ўзяць шлюб са мной, я збунтавалася і адмовіла яму. Не буду будаваць свайго шчасця на няшчасці іншых!

Месяцы два мы не бачыліся. Ён не прыходзіў, бо быў абражаны на мяне, але вельмі цярпеў па гэтай прычыне. А пасля ізноў паявіўся ў маёй хаце і сказаў, што калі такая жанчына, як я, мае быць адна, дык няхай прынамсі будзе жонкай яго брата. Ён расказаў мне, што ў яго ёсць нежанаты брат, які жыве ў Амерыцы. Там ён ніяк не можа ажаніцца, бо хацеў бы ўзяць сваю дзяўчыну, а пад рукою ўсё амерыканкі. Пасля ізноў пачаў мне гаварыць пра сваё вялікае каханне і ўсё паўтараў, што няхай такая кабета будзе хоць яго брату. Брат неўзабаве меў прыехаць з Амерыкі ў водпуск, але ўжо цяпер ён хацеў бы яму паведаміць, ці згаджаюся я пазнаёміцца з ім. Я падумала, што мне вось тут адной так цяжка і маркотна, а ў той Амерыцы, можа, было б лепш і мне і дачушцы. Сям'я ў мяне тут невялікая і нічога асаблівага нас тут не затрымала б. І я дала свайму знаёмаму згоду, што калі яго брат прыедзе і мы спадабаемся адзін другому, то я выйду за яго замуж.

Брат з Амерыкі прыехаў да майго знаёмага праз тры месяцы. З маім адрасам у руках ён пастукаў у дзверы маёй суседкі, паколькі мяне не было якраз дома. Я выйшла ў горад аформіць нейкую справу і зрабіць крыху пакупак. Суседка ветліва сустрэла госця з Амерыкі і запрасіла яго да сябе. Я вярнулася дахаты гадзіны праз дзве, але суседка мне адказала, што быў госць, але пайшоў да брата. Нешта ёкнула ў маім сэрцы. Я пазваніла да свайго знаёмага, у якога меў затрымацца амерыканскі брат, а ён мне высветліў усё, што здарылася ў кватэры маёй суседкі. Справа ў тым, што суседка не запрасіла яго дзеля таго, каб пачакаў мяне, а дзеля таго, каб высветліць яму „ўсё па парадку“. І расказала яму, што мой каханак гэта ён — брат з Польшчы, а каб была я ў іхняй сям'і, быццам бы спецыяльна хацеў падсунуць мяне свайму брату. Брат абразіўся і не схацеў мяне нават бачыць.

Я, вядома, нічога не дамагалася, не запрашала больш, каб ён прыйшоў, але мне было вельмі прыкра, што чалавек чалавеку воўк. Пазайздросціла мая суседка майму шчасцю, якое і так не збылося, і вось засталася я цяпер і зноў адна са сваёй дванаццацігадовай дзяўчынкай.

Скажы мне, Сэрцайка, ці варта верыць людзям, ці можна разлічваць на іх дапамогу, ды і наогул ці варта з людзьмі знацца? Думаю ўсё ж, што ён быў бы мною задаволены, бо, калі б мне спадабаўся, то напэўна магла б я быць добрай жонкай для яго і нарадзіць яму яшчэ не адно дзіця. А так вось з-за языка маёй суседкі я ізноў засталася адна...

АГАТА

Агата! Фейербах калісь пісаў, што выпадковасць гэта адна з форм неабходнасці. Калі б чалавек з Амерыкі прыйшоў на дзве гадзіны пазней, можа, была б шчаслівая не толькі ты, але і ён. Аднак жа так не сталася. Зласлівы язык тваёй суседкі зрабіў сваё і таму ён ад цябе адвярнуўся. Не шкадуй нязздзейсненага! Відаць, так трэба было. Пастарайся знайсці сабе іншага чалавека, менш даверлівага пляткарскім душам, сапраўднага мужчыну!

СЭРЦАЙКА




## РЫБА З ФАСОЛЯЙ

На 1 кг марской рыбы трэба ўзяць 3 лыжкі мукі, 8-10 дэкаў алею (найлепш са сланечніка), 3 цыбуліны, 3 зубкі часнаку, 20 дэкаў свежых ці марожаных памідораў, лаўровы лісток, паўшклянкі белага сухога віна, 30 дэкаў белай дробнай фасолі, соль, перац, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Перабраць і намыць фасолю, заліць яе летняй вадой і пакінуць на некалькі гадзін. Калі набрыняе, зварыць у той самай вадзе, у якой яна мачылася (сачыць, каб не разварылася). У канцы пасаліць. Рыбу памыць і парэзаць на порцыі, пасыпаць перцам, нацерці часнаком, расцертым з соллю, а пасля гэтага пасыпаць прасеянай мукой і падсмажыць на алеі. Абабраную цыбулю спаласнуць, дробна пасячы, укінуць у каструльку з разагрэтым алеем і крыху падтушыць Тады дадаць абабраныя, памытыя і нарэзаныя памідоры і раскрышаны лаўровы лісток. Даліць віна. Тушыць на невялікім агні мінут пяць. Запраніць па смаку соллю і перцам. Падрыхтаваны соус перамяшаць са зваранай і адцэджанай фасоляй, палажыць на талерку з рыбай, пасыпаць пасечанай зялёнай пятрушкай.

## РЫБА З ТАМАТНЫМ СОУСАМ

На 1 кг рыбы трэба ўзяць паўкілаграма памідораў або 10 дэкаў таматнай пасты, паўшклянкі смятаны, лыжку мукі, 6 дэкаў тлушчу, 15 дэкаў цыбулі. соль, перац, цукар, 2-3 лыжкі дробна пасечанай зяляніны, лімонны сок.

Рыбу памыць, ачысціць, нарэзаць кавалкамі. Спырснуць лімонным сокам і пакінуць на паўгадзіны, пасля чаго пасыпаць мукой і крыху падсмажыць на тлушчы. Абабраную цыбулю нарэзаць пер'ямі і падсмажыць. Памідоры памыць, абдаць кіпетнем, зняць з іх скурку, нарэзаць. У цыбулю палажыць памідоры ці таматную пасту, перамешаную са шклянкай вады. Тушыць некалькі мінут. Пасля палажыць рыбу і тушыць на невялікім агні мінут дваццаць. Запраніць соллю, цукрам і перцам па смаку. Палажыць на талерку, густа пасыпаць пасечанай зялёнай пятрушкай. Гэтую рыбу падаюць гарачай з варанай бульбай ці клёцкамі і салатай з салодкай капусты.

## РЫБА ПА-КАЎКАЗСКУ

На 1 кг марской рыбы трэба ўзяць 25 дэкаў цыбулі, 3-4 галінкі сэлера, 3 морквіны, паўлыжачкі лімоннай скуркі, сцертай на тарцы, лімонны сок, 3 лыжкі пасечанага ўкропу, 1 шклянку памідорнага перацёру, соль, перац, 3/4 шклянкі алею.

Рыбу памыць, спаласнуць, парэзаць на порцыі, пасыпаць перцам і сцертай лімоннай скуркай, а тады падсмажыць з абодвух бакоў на алеі, пасаліць, астудзіць, спырснуць лімонным сокам. Цыбулю ачысціць, памыць, дробна нарэзаць і крыху падсмажыць на алеі. Сэлер і моркву памыць, ачысціць і нарэзаць, дадаць да цыбулі, перамяшаць. Калі гародніна будзе мяккая, спалучыць яе з памідорным перацёрам і закіпяціць. Зняць з агню, дадаць соль, перац і лімонны сок, перамяшаць з пасечаным укропам. Падрыхтаваны соус палажыць навокал рыбы на талерку і астудзіць страву ў халадзільніку. Падаваць з хлебам ці булкай.

ГАСПАДЫНЯ

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

К. Тангрыкуліеў

### МАМА

Пражыла на свеце мама
Год руплівых шмат.
За яе радней нікога
На зямлі няма.

Спаць кладзецца — позні вечар,
Устае з зарой.
Розных клопатаў багата
Дзень прыносіць ёй.

Хлеб парэжа, чай паставіць:
— Ні ды еш, сынок! —
Нас усіх збярэ, адправіць
Раніцай на ўрок.

Вось, гляджу, аб градах дбае,
Хлеб ідзе мясіць
І карову паспявае
Сенам накарміць.

Ручку, сшытак згубім зрэдку —
Знойдзе ўсё для нас.
Памагчы старой суседцы
Выбірае час.

Затрымаюць нас у школе —
Сумпая яна,
Рукавічкі ціха вяжа,
Сеўшы ля акна.

Ты жыві на свеце, мама,
Год шчаслівых шмат,
За цябе радней нікога
На зямлі няма!

*Пераклаў Валянцін Лукша*



### КОТ — НАСТАЎНІК

**Тувінская народная казка**

Жыў калісьці лама.[1]. У яго манастыры завяліся мышы. Яны пачалі есці не толькі прыпасы, а сталі нават падточваць слупы манастыра. Тады ён запрасіў да сябе ката.

Калі кот прыйшоў, лама склікаў усіх мышэй на сход і сказаў:

—Гэты кот будзе вашым настаўнікам. Кожны вечар ён будзе чытаць вам святыя кніжкі.

Мышы перапалохаліся і згадзіліся.

І вось кожны вечар сталі яны збірацца ў ката і слухаць ягоную навуку. Калі мышы разыходзіліся, кот лавіў апошнюю і з'ядаў яе. З кожным днём мышэй станавілася ўсё меней і меней. Яны заўважылі гэта. Адна з іх кажа:

— Што гэта? Як пачаў кот нас вучыць, нас усё меней і меней! Куды знікаюць мышы?

— Можа, кот мышэй з'ядае? — спытала другая.

— Не можа быць, ён жа — наш настаўнік! — запярэчыла трэцяя.

— Давайце праверым, — сказала чацвертая. — Трэба ўкрасці ў ламы званочак і прывязаць яго кату на хвост.

На другі вечар мышы прыйшлі да ката са званочкам. І непрыкметна прывязалі яго на хвост настаўніка. Пасля чытання мышы пайшлі дамоў. Але за дзвярыма яны не разбегліся, а спыніліся і пачалі слухаць. Адразу ж пачуўся гук званочка. Мышы вярнуліся і ўбачылі, што іх сястру, якая выходзіла апошняй, кот трымаў у лапах. Не паспелі мышы і ахнуць, як кот яе з'еў.

— Вось бачыце, — сказала старэйшая мыш. — Гэта не настаўнік, а драпежнік. Трэба адсюль уцякаць!

І мышы разбегліся ў розныя бакі.

З той пары яны ўцякаюць ад катоў.

**Пераклаў М. Шукапаў**

---

[1] Лама — духоўная асоба ў будыйскай рэлігіі.



*Удзельніцы конкурсу „Беларуская песня '90" для школьнікаў — дуэт з Ляшукоў спявае пад акампанемент дудак. Граюць дзяўчаткі з той жа школы.* *Фота Я. Чэрнякевіч*

Кастусь Турко

### ВУЧЫЦЕСЯ, ДЗЕЦІ...

Вучыцеся, дзеці,
бацькоўскай, чароўнай,
Звонкай, пявучай,
музыкі поўнай,
Мілай, як сонца,
адвечнай і кроўнай
Мове сваёй беларускай.

У бітвах і горы
для нас захаванай,
Гарачай крывёю,
слязьмі змацаванай.
Вучыцеся, дзеці,
з любоўю, пашанай
Мове сваёй беларускай.

Вучыцеся, дзеці,
вялікім тым словам,
Што волі і ладу
нітуюць асновы,
Што праўду ў сэрцы
ўсяляюць нанова,
На мове сваёй беларускай.

### СЫНУ

Колькі песень у народзе —
Ад стагоддзя ў стагоддзе...
Але тон іх адзіны
З самай глыбі глыбіняў.
Ад калыскі да скону
Быць у табе таму тону
Дождж спадзе, вечарэе —
Сэрца ўжо разумее,
Бо што ў сэрцы — у слове,
У вечнай праўдзе — у мове,
У мове дзеда, прадзеда,
Каб заўсёды ты ведаў.
А што сэрца натхняе, —
Сэнс адменны свой мае.
Раз лістком — другі словам
Узнікае нанова,
Раз зарой, навальніцай,
Звонам кос у касавіцу.
Ці з агністым запалам
Багдановічам і Купалам,
Найдарожшым, адзіным
Словам — маці-айчына.

Міхась Пазнякоў

### МАМІНЫ РУКІ

Слава маміным рукам,
Што работу любяць
І прыносяць сонца нам,
Ласкаю галубяць.

Слава маміным рукам.
Хай на ўсёй планеце
Кветкамі для мілых мам
Расцвітаюць дзеці.

### ТАНЯ-ПРАЦАЎНІЦА

Таня кветкі пасадзіла,
Палівала іх, расціла.
Берагла ад навальніцы,
Ад цялушкі-шаляніцы.

Паліваць прыйшла сягоння —
Усміхаецца півоня.
Прыйдуць з працы тата, мама —
Заўсміхаюцца таксама.



## малюнкі школьнікаў



Ілюстрацыя да казкі „Мухамор". Малявала вучаніца другога класа Марта Філімонюк са школы ў Храбалах.

Фелікс Казлоўскі




### КАЗКА

**Пачатак у папярэднім нумары**

Павячэралі браты. Ярому падзякавалі. Тут Ярома бацьку бух у ногі:

— Прадоўжы, бацюхна, тэрмін Мар'ю-прыгажуню сватаць, пакуль усё мяса не з'ядзім.

Памаўчаў, памаўчаў бацька і такія словы сказаў:

— Згодзен я зрабіць так, як ты просіш, Ярома. І хто з вас стане самым дужым і здаровым, за таго і пасватаю Мар'ю-прыгажуню. З гораду мне паперку прынясеце, хто колькі важыць будзе.

Старэйшыя браты кіўнулі галовамі: зробім, маўляў, як загадаў. Ярома таксама кіўнуў галавой, а сам ад радасці на адной назе заскакаў. Якраз у той час зайшоў сусед.

Усе сядзелі спакойна. Толькі Ярома спужаўся, замітусіўся. Абгрызеныя косці рукамі прыкрывае на стале.

Сусед пагасцяваў крыху і пайшоў. Бацька пытаецца ў Яромы:

— Ты што, сын, так збялеў, можа, мяса пераеў?

— Ды нічога, — адказаў Ярома. — Не трэба, каб сусед да нас заходзіў. Ён даведаецца, што ў нас мяса ёсць, і за стол папросіцца.

— Не будзь скнараю, Ярома, — упікнуў бацька.

Пасля вячэры ўсе спаць палеглі, і Ярома таксама залез на печ. Старэйшыя браты і бацька пасопваюць. Ярому не спіцца, усё пра суседа думае: „Ці не здагадаўся ён, што я бычка-трацячка ў яго ўкраў?"

Назаўтра зноў Ярома наварыў мяса, сам наеўся, на вячэру бацьку і братам пакінуў. Думае: „Буду я два разы на дзень мяса есці, а братоў толькі адзін раз карміць. Хто дужэйшы і здаравейшы будзе? Вядома, я".

Як заўсёды позна вечарам прыйшлі браты з работы. Селі вячэраць. Тут зноў сусед прыйшоў.

— Добры вечар вам у хату, — гаворыць.

Ярома як убачыў суседа, дык ледзь кавалкам мяса не падавіўся, апетыт адразу прапаў. А старэйшыя браты хоць бы што, сядзяць спакойна, мяса ядуць і хлебным квасам запіваюць.

Зноў Ярома ўсю ноч не спаў.

Стала Ярому жыццё сапраўднай пакутай. Раніцой наварыць сабе мяса і думае: „Вось зараз наемся ўжо ўволю..." Але не, на ежы, усё на дзверы паглядае — раптам сусед прыйдзе і скажа: „Ты ўкраў бычка!"

Мінуў час. З'елі бычка-трацячка. Бацька сам павёз сыноў у горад узважваць.

Стаў Іван на вагі — тры фунты прыбавіў. Стаў Сцяпан — два фунты. Узважылі Ярому — збавіў у вазе два фунты.

Паляпаў бацька старэйшага па плячы:

— Малайчына, — кажа.

І сярэдняму сыну ласкавае слова сказаў. Потым павярнуўся да Яромы:

— Рана яшчэ табе жаніцца, Ярома. Моцна цябе бычок-траця чок падвёў.

Тут Ярома зразумеў усё, што з ім здарылася, ды позна. Мар'я-прыгажуня старэйшаму сыну Івану жонкай будзе.

## Вершы Віктара Шведа

### МАЛЕНЬКАЯ СКАВАРАДА

**— Цікава ведаць, мілы Лёва,**
**Ці ты сабе, ці мне кату,**
**Так пастаянна ў рэчцы ловіш**
**Мізэрненькую драбнату?**

**— Малыя рыбіны ў праграме**
**Маёй тут лоўлі на вуду,**
**Таму што мае мая мама**
**Маленькую скавараду.**

### ДРОБЫ

**Дзецям на ўроку матэматык**
**Нагляднаю праводзіць спробу.**
**Тлумачыць хлопцам і дзяўчатам,**
**Як аднімаць ад сумы дробы.**

**— Як назавем, калі парэжу**
**Я торт на дваццаць**
**роўных частак**
**І дам адну камусь да ежы?**
**— Дык будзе скупасць,**
**— кажа Наста.**

### У ГАРАДСКІМ ПАРКУ

**Маці з малой дачушкай Варкай**
**Прыселі адпачыць у парку.**
**Прайшлі яны ўжо шмат дарогі**
**І прытаміліся ў іх ногі.**

**Ваўёрка знекуль узялася.**
**Матуля кліча: — Бася, Бася!**
**Дзяўчынка уздыхнула горка.**
**— Па-польску, мама, я ваўёрка.**

### ПАРАСЯТЫ

**На экране свінаматка**
**І малыя парасяткі.**
**— Як завуцца тыя свінкі? —**
**Запыталася дзяўчынка.**
**Адказаў ёй добры тата:**
**— Гэта ж, доню, парасяты.**
**— Парасяты ж, — кажа**
**Лідка, —**
**Дзеці, што ядуць так брыдка.**

### НЕСЛУХМЯНЫ — ПАКАРАНЫ

**Хлопец неслухмяны,**
**Бацькам пакараны,**
**Сеў на панадворку,**
**Плакаў доўга, горка.**
**Да матулі скора**
**Ён прыбег з дакорам:**
**— Ад злоснага таты**
**Пухнуць вачаняты.**

## Вясёлы куточак

Вучні першага класа пайшлі з настаўніцай на экскурсію ў лес. Настаўніца паказвае дзецям розныя з'явы ў прыродзе, а дзеці разглядваюць паказаныя аб'екты.

— Гляньце сюды, дзеці, — кліча настаўніца. — Гэта пчолка, якая дае нам мёд.

Усе дзеці схіліліся над пчолкай, толькі адзін Пеця ўбачыў на суседняй кветцы іншую пчолку і пытаецца:

— А што нам дае гэтая пчолка?

— ✻ —

— Чаго плачаш? — пытаецца жанчына ў хлопчыка на вуліцы.

— Бо ў нас сёння пякуць каравай на вяселле.

— Дык чаго ж плакаць? Каравай вельмі смачны.

— Але я не магу трапіць дадому!

— ✻ —

Настаўніца раззлавалася, бо на ўроку нехта свіснуў.

— Прызнайцеся, хто гэта зрабіў, бо інакш застанецеся пасля ўрокаў.

Міша ўстае і гаворыць:

— Я прызнаюся. Гэта зрабіў мой сусед Вася.

— ✻ —

Лекар-псіхіятр пытаецца ў пацыента:

— Колькі ног у сабакі?

— Чатыры.

— Колькі ў яго вушэй?

— Два.

— Колькі вачэй?

— Немагчыма, каб вы, пане доктар, ніколі сабакі не бачылі! — дзівіцца пацыент.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, 62, кв. 65. Каршакевіч Лене (7 клас).

— ✻ —

СССР, 340036, г. Донецк-36, ул. Лобачевского, 15. Сапелкиной Наде (7 клас).

— ✻ —

СССР, 340036, г. Донецк-36, ул. Авдеева, 68. Алёхиной Маргарите (7 клас).

— ✻ —

СССР, 340036, г. Донецк-36, ул. Поддубного, 18. Шарыгиной Люде (7 клас).

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Пеця збірае паштоўкі са звярамі. Ёсць у яго па некалькі з розных бакоў свету. Цяпер ён збіраецца паўкладаць іх у альбоме. Дапамажыце падабраць паштоўкі парамі паводле таго, дзе жывуць гэтыя звяры.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

# TV TELEWIZJA WARSZAWA

**PIĄTEK 25 V 1990 r.**
**PROGRAM I**

7.45 Express gospodarczy
8.05 Wśród ludzi — Ziemia — planeta ludzi
8.50 „Domowe przedszkole"
9.15 Wiadomości poranne
9.25 „Złoty skarb" — radz. film fab.
10.40 „Domator" — Szkoła dla rodziców (niedoczynność tarczycy u dzieci)
11.10 Drogi do niepodległej — O wojnę powszechną ludów
12.50 W Europie nowożytnej: Polska lat 1764—1795 — ku politycznemu upadkowi
13.30 TTR — s. II Matematyka — Zastosowanie trygonometrii do zadań z techniki
14.00 TTR — s. II Spotkania z literaturą — „Śluby panieńskie"
15.00 W szkole i w domu
15.20 NURT — Polska emigracja
15.50 Program dnia i Telegazeta
15.55 „Intersygnał"
16.25 Dla młodych widzów: „Misterium sceny"
16.50 Dla dzieci: „Okienko Pankracego"
17.15 Teleexpress
17.30 „Raport"
18.00 Program lokalny
18.45 „10 minut"
19.00 Dobranoc
19.10 „Teraz" — tygodnik gospodarczy
19.30 Wiadomości
20.00 Studio generalnego komisarza wyborów
20.10 Kino muzyczne Kydryńskiego: „Wyższe sfery" — film USA
22.00 W twoich rękach — przed wyborami
22.05 Sport
22.15 „Weekend w Jedynce"
22.25 Wiadomości wieczorne
22.40 „Rzeczpospolita samorządna" — Sejmik

**PROGRAM II**

16.55 Korepetycje dla maturzystów — Język ang. (45)
17.25 Program dnia
17.30 Wzrockowa lista przebojów Marka Niedźwieckiego
18.00 „Dobra nadzieja" (9) — serial franc.
19.00 Express gospodarczy (powt.)
19.20 Antena „2" na najbliższy tydzień
19.30 „Argentyna" — program public.
20.00 „Piątek" — magazyn z Krakowa
21.30 Panorama dnia
21.55 „Kobieta mojego życia" — franc. film fab.
23.25 Komentarz dnia

**SOBOTA 26 V 1990 r.**
**PROGRAM I**

6.45 TTR — s. IV Mechanizacja rolnictwa — Mechanizacja usuwania obornika
7.15 TTR — s. IV Produkcja zwierzęca — Dobór osobników do rozpłodu
7.45 Program dnia
7.50 „Tydzień na działce"
8.20 „Na zdrowie" — program rekreacyjny
8.40 „Ziarno" — program Redakcji Katolickiej dla dzieci i rodziców
9.00 „Drops" — magazyn dla dzieci i młodzieży oraz film z serii „Heidi"
10.30 Wiadomości poranne
10.40 „Zanim zabrzmiała jej pieśń" — film dok.
11.10 „Militaria, obronność, nowoczesność"
11.35 „Poza rok 2000" — austral. film dok.
12.05 Telewizyjny koncert życzeń
12.35 „Wędrówki dalekie i bliskie": „Kamienie Prowansji" (2)
13.10 „Żyć" — magazyn ekologiczny
13.35 „Sztuka i my"
14.00 „Nad Niemnem, Piną i Prypecią" — Na Polesiu
14.20 „Rewizja nadzwyczajna" — Rembertów 1945
14.50 „Wierna rzeka" — polski film archiw. z 1936 r.
16.05 Telewizyjny Informator Wydawniczy
16.20 „Skarbiec" — magazyn historyczno-kult.
17.15 Teleexpress
17.30 „Butik"
18.00 Program lokalny
18.45 „10 minut"
19.00 Dobranoc
19.10 Z kamerą wśród zwierząt
19.30 Wiadomości
20.05 „Co to był za ślub" — ang. film fab.
22.10 Telewizyjny przegląd sportowy
22.30 „Haich Life" (3)
23.15 „Życie jest fraszką"
23.25 Telegazeta
23.35 „Klejnot z Chin" — franc. film sensac.

**PROGRAM II**

13.00 Czas akademicki — Katolicki Nurt Stowarzyszeń Akademickich
13.30 „Bariery"
13.55 Program dnia
14.00 „Kraina tygrysa" — film przyrodniczy prod. USA, cz. 2
14.35 „Spektrum"
14.40 „Odkąd świat jest światem" — franc. film dok.
14.55 Meandry architektury
15.15 „Futura" — franc. film dok.
15.25 „Cerowanie życia" — polski film dok.
15.45 „Energia" — franc. film dok.
16.00 „Cisza i dźwięk" (6)
16.30 Koncert laureatów Festiwalu Piosenki Studenckiej — Kraków '90
17.30 Bruce Forsyth — program rozrywkowy cz. 1
18.00 „Odeon" na antenie „2"
18.45 Bruce Forsyth — program rozrywkowy cz. 2
19.30 Galeria 37 milionów — malarstwo Henryka Musiałowicza
20.00 Przed Konkursem Chopinowskim — w obcych krajach
21.00 „Dwa + 2"
21.30 Panorama dnia
21.45 Fragmenty pewnej całości — reportaż z wystawy World Press Photo '89
22.10 „Mussolini — historia nieznana" (6) — serial USA
23.10 Komentarz dnia

**NIEDZIELA 27 V 1990 r.**
**PROGRAM I**

7.00 Witamy o siódmej
7.30 „Kraj za miastem"
7.55 „Po gospodarsku" — magazyn spraw wiejskich
8.10 „Od niedzieli do niedzieli"
8.40 Program dnia
8.45 Program lokalny
9.00 Teleranek oraz serial TP „Detektywi na wakacjach"
10.30 Wiadomości poranne
10.45 „Tajemnice rosyjskiej przyrody" (12-ost.) przyrodn. film kanad.-radz.
11.10 „Szalom" — „Barwy czasu" — film dok.
11.50 Wiadomości
12.00 Telewizyjny koncert życzeń
12.50 Teatr Młodego Widza: E: Nowacka — „Małgosia contra Małgosia" (3)
13.45 Wiadomości
14.00 Sportowa niedziela
14.35 „Morze" — magazyn
15.00 Program lokalny
15.15 Międzynarodowy Festiwal Tańca „Poznańskie Koziołki"
15.55 „Angielska limuzyna" (5) — serial franc.
16.50 Antena
17.15 Teleexpress
17.30 Cannes '90 — reportaż
18.00 Portrety: „Aleksander Gieysztor — historia dawna i bliska" — film dok.
19.00 Wieczorynka
19.30 Wiadomości
20.05 „Modrzejewska" (3) — serial TP
21.25 Kabaret Olgi Lipińskiej — Struś
22.25 Wiadomości wieczorne
22.35 „7 dni — świat"
23.05 Sportowa niedziela
23.45 Telegazeta

**PROGRAM II**

8.40 „Zdrowie" — magazyn public.
9.10 Przegląd tygodnia
9.45 Film dla niesłyszących: „Modrzejewska" (3)
11.05 „Jutro poniedziałek"
11.30 Lokalny koncert życzeń
11.55 Program dnia
12.00 Kino Familijne: „Autostrada do nieba" (13) — serial USA
12.50 Polska Kronika Filmowa
13.00 Studio Kontakt
14.00 Maciej Niesiołowski — Z batutą i z humorem
14.20 „Podróże w czasie i przestrzeni": „Biblia a historia" (5) „Twoje jest królestwo" — ang. serial dok.
15.25 Formuła I (Monte Carlo)
15.55 100 pytań do...
16.35 Formuła I
17.30 „Bliżej świata"
19.00 „Wydarzenie tygodnia"
19.30 „Paganini — człowiek, legenda"
20.00 Studio Sport — Piłka w grze
21.00 Kobiety XX-lecia — Maria Kuncewiczowa
21.30 Panorama dnia
21.45 „Rażące zaniedbanie" — film fab. prod. ang.
23.20 „Dziecko szczęścia, czyli Jeremi Przybora" — „Zima" (ost.)
24.00 Komentarz dnia
0.05 „Akademia wiersza"

**PONIEDZIAŁEK 28 V 1990 r.**
**PROGRAM I**

13.30 TTR — s. II Mechanizacja rolnictwa — Mechanizacja uprawy gleby — pługi
14.00 TTR — s. II Produkcja roślinna — Chemiczne metody ochrony roślin
15.30 NURT
16.20 Program dnia i Telegazeta
16.25 „Luz" — program nastolatków
17.15 Teleexpress
17.30 „Gorące linie"
18.00 „Wędrówki dalekie i bliskie": „Miasto zmarłych" — jugosł. film dok.
18.45 „10 minut"
19.00 Dobranoc
19.10 W Sejmie i Senacie
19.30 Wiadomości
20.05 Teatr Telewizji na świecie: Ramon J. Sender — „Kury Cervantesa"
21.35 Sport
21.45 ‚Kontrapunkt"
22.15 „Yaga Yan" — recital zespołu
22.35 Wiadomości wieczorne
22.50 Kinomania
23.25 Język angielski (60)

**PROGRAM II**

16.55 Język angielski (60)
17.25 Program dnia
17.30 Program muzyczny
17.45 „Ojczyzna-polszczyzna"
18.00 Program lokalny
18.30 „Za chwilę dalszy ciąg programu"
19.30 Roman Lasocki przedstawia — Adam Musialski (skrzypce)
20.00 Auto-moto fan klub
20.30 „Studio tajemnic"
21.30 Panorama dnia
21.45 „Każdy ma swoje piekło" — franc. film fab.
23.25 Komentarz dnia

**WTOREK 29 V 1990 r.**
**PROGRAM I**

8.35 „Domator" — Rady na życzenie — Zdrowie na talerzu
8.50 „Domowe przedszkole"
9.15 Wiadomości poranne
9.25 „Bluebell" (3) — serial ang.
10.20 „Domator" — Rady na życzenie
11.10 „Od Wersalu do Poczdamu" — „Od Maja do Października"
13.30 TTR — s. IV Fizyka — Fizyka w życiu współczesnym
14.00 TTR — s. IV Produkcja roślinna — Badania naukowe a praktyka rolnicza
15.00 AIDS — Solidarni wobec AIDS
16.20 Program dnia i Telegazeta
16.25 „Tik-Tak" oraz film z serii „Gumisie"
17.15 Teleexpress
17.30 „Spojrzenia" — publicystyka międzynarodowa
17.55 Klinika zdrowego człowieka
18.15 Film dokumentalny
18.45 „10 minut"
19.00 Dobranoc
19.10 „Plus-minus" — program publ.
19.30 Wiadomości
20.00 Spotkanie z ministrem Jackiem Kuroniem
20.15 „Bluebell" (3) — ang. serial obycz.
21.10 Sport
21.20 „Listy o gospodarce"
21.55 Leksykon polskiej muzyki rozrywkowej — „S"
22.45 Wiadomości wieczorne

**PROGRAM II**

17.25 Program dnia
17.30 „Dookoła świata" — „W indyjskim porcie i na wyspie św. Heleny"
18.00 Program lokalny
18.30 „Dawniej niż wczoraj"
18.50 Program public.
19.10 Modlitwa wieczorna
19.30 Studio Sport
20.00 Koncert dla Polski — transmisja z Archikatedry Warszawskiej
21.00 Wywiady Ireny Dziedzic
21.30 Panorama dnia
21.45 „Crimen" (5) — serial TP
22.45 Komentarz dnia

**ŚRODA 30 V 1990 r.**
**PROGRAM I**

7.45 Express gospodarczy
8.05 „Przez lądy i morza" — „Do źródeł Nilu"
8.35 „Domator" — Nasza poczta, Zdrowie na talerzu
8.50 „Domowe przedszkole"
9.15 Wiadomości poranne
9.25 „Autostopowicz" z serii „Telefon 110" — film fab. prod. NRD
10.45 „Domator" — Przyjemne z pożytecznym
12.50 Fizyka — Dwoista natura światła
13.30 TTR — s. II Chemia — Ochrona środowiska
14.00 TTR — s. II Produkcja zwierzęca — Rozród owiec i wychów jagniąt
15.00 „Poznaj swój kraj" — W porcie
15.30 NURT — Matematyka w szkole podstawowej — kl. VI
16.20 Program dnia i Telegazeta
16.25 Dla młodych widzów: „Latający Holender"
16.50 Dla dzieci: „Cojak" — teleturniej
17.15 Teleexpress
17.30 „Gry wojenne"
17.55 Telewizyjny Informator Wydawniczy
18.15 Film dokumentalny
18.45 Rolnicze rozmaitości
19.00 Dobranoc
19.10 „Obok nas" — „Na zielonym przesmyku"
19.30 Wiadomości
20.05 „Nigdy, nigdzie, nikomu" — dramat obycz. prod. węg.
21.40 Sport
21.50 Sprawa dla reportera
22.40 Wiadomości wieczorne
22.55 „Wokół wielkiej sceny" — magazyn operowy

**PROGRAM II**

16.35 Korepetycje dla maturzystów: J. angielski
17.05 Program dnia
17.10 „Zbliżenia, czyli to i owo o filmie"
17.40 Express gospodarczy
18.00 Program lokalny
18.30 Teletombola — rozdanie nagród
19.30 Publicystyka kulturalna
20.00 Czarno na białym — przegląd PKF
20.40 Przegląd muzyczny
21.00 Ze wszystkich stron
21.30 Panorama dnia
21.45 „W labiryncie" — serial TP
22.15 „997" — kronika kryminalna
23.15 Komentarz dnia

**CZWARTEK 31 V 1990 r.**
**PROGRAM I**

8.35 „Domator" — Nasza poczta, Zdrowie na talerzu
8.50 „Domowe przedszkole"
9.15 Wiadomości poranne
9.25 „Uwodziciel" (4) — serial ang.
10.15 „Domator" — Nie dajmy się
13.30 TTR — s. IV Matematyka
14.00 TTR — s. IV Współczesne życie kulturalne
15.50 Ministerstwo Edukacji Narodowej informuje
16.30 „Czystość z Karcherem" — rolniczy film oświatowy
16.20 Program dnia i Telegazeta
16.25 Dla młodych widzów: „Kwant" oraz film z serii „Ordy"
17.15 Teleexpress
17.30 „System"
17.55 Film dokumentalny
18.25 Magazyn katolicki — Daruję ci serce
18.45 „10 minut"
19.00 Dobranoc
19.10 „Od A do Z" — „M" jak makler
19.30 Wiadomości
20.05 „Uwodziciel" (4) — ang. film krym.
21.00 „Interpelacje"
21.50 Sport
22.00 „Pegaz"
22.45 Wiadomości wieczorne

**PROGRAM II**

16.55 Korepetycje dla maturzystów: J. angielski
17.25 Program dnia
17.30 „W labiryncie" — serial TP (powt.)
18.00 Program lokalny
18.30 „Super Razem" — rozwiązanie konkursu
19.30 Przegląd filmów Piotra Parandowskiego: „Harfa i krzyż" — film dok.
20.00 Wielki sport
21.00 Express reporterów
21.30 Panorama dnia
21.45 Kino studyjne „Dwójki": „Horoskop Jezusa Chrystusa" — węg. film fab.
23.15 Komentarz dnia




Фотарэпартаж з „Беларускай песні '90" для школьнікаў • Паслявыбарчыя рэфлексіі • У „Белавежы" — новыя вершы Алеся Барскага • Прабачыць дзеля сямейнага шчасця? • Клопаты русістаў • З мінулага Уваскрасенскай царквы ў Бельску-Падляшскім • Не словамі, а ўчынкамі Бога хваліць трэба • Парады • Гумар.

